# РУНЬ

газэта беларусаў Літвы

27 студзеня 2000 №29 кошт 1 літ





*...Я хацеў-бы, каб чалавецтва упадобнілася прызьме, адзінай, зьзяючай, пранізанай сьвятлом, — прызьме, якая ўвабрала ў сябе мноства фарбаў. Няхай-жа станецца яна вясёлкай у тысячу калёраў. Народы — калёры чалавецтва, і адрозьненьні паміж імі гэткія-ж натуральныя й лёгка вытлумачальныя, як вытлумачальная, з прычыны вядомых абставінаў, розьніца спаміж асобнымі людзьмі. Зрабіце так, каб усе гэтыя грані былі роўна зыркімі, роўна зіхоткімі, роўна надзеленыя сьвятлом, якое іх фармуе й безь якога яны зьніклі-б у пустотах нябыту, — бо ў цемры несправядлівасьці й варварства нацыі роўныя толькі ў жорсткасьці ды сьвінстве, фанатызме ды невуцтве.*

**Міхал Эмінэску**

*1868 г.*

# У БЕЛАРУСКІХ УЛАДАЎ СВАЁ РАЗУМЕНЬНЕ СВАБОДЫ СЛОВА

Напярэдадні Новага году, з 27 сьнежня, у Беларусі пачаў дзейнічаць Закон «О внесении дополнений в некоторые законодательные акты Республики Беларусь», якім у чарговы раз дапоўнены сумнавядомы Закон аб друку. Цяпер адным з злоўжываньняў свабоды масавай інфармацыі зробіцца распаўсюджаньне інфармацыі ад імя палітычных партыяў, прафсаюзаў, саюзаў або іншых грамадзкіх арганізацыяў, якія не ка ды нагадвалі ўладам, што мы павінныя жыць у дэмакратычнай праўнай дзяржаве.

Ня будзем дэтальна аналізаваць чарговае «упорядочение» беларускага заканадаўства. Тут усё цалкам зразумелае: новасьпечаным «законам» ёкарэктаваныя такія стандарты дэмакратыі, як свабода меркаваньняў, перакананьняў ды іхняе свабоднае выказваньне, права кожнага на свабоду інфармацыі. Спроба паказаць усё гэтае як звычайную нарматворчую дзейнасьць рассыпаецца ўжо пры прайшлі нядаўнюю дзяржаўную перарэгістрацыю. У тым самым акце прадугледжаныя карныя меры ў дачыненьні тых, хто зьбіраецца дзейнічаць ад імя неперарэгістраваных арганізацыяў.

Не сакрэт, што прыняцьце гэтых «дополнений» лягічна вынікае зь ня менш сумнавядомага прэзыдэнцкага дэкрэту N 2 ад 26 студзеня 1999 г. «О некоторых мерах по упорядочению деятельности политических партий, профессиональных союзов, иных общественных организаций», зь якога й пачалася тая «перарэгістрацыя». Наўрад ці трэба згадваць, як менавіта яна праходзіла й чым скончылася. Заўважым толькі, што ў разрад «падпольных» патрапіла шэраг грамадзкіх арганізацыяў, каторыя актыўна займаліся абаронаю правоў і свабодаў чалавека самай павярхоўнай ацэнцы. Прагляддаецца імкненьне да зламаньня палітыка-праўнай канструкцыі прававых адносінаў. Зразумелая й мэта: паскорыць і без таго імклівы адыход цяперашняй улады ад дэмакратычных пачаткаў дзяржаўнага жыцьця. У выніку грамадзтва можа страціць аб'ектыўную, бесстароннюю інфармацыю, якую, пераважна, і давала незалежная прэса.

Толькі вольныя ад дзяржаўнага дыктату СМІ могуць забясьпечыць празрыстасьць дзейнасьці ўсіх структураў улады, паказаць сапраўднае аблічча асобна ўзятага чыноўніка, якую-б пасаду ён не займаў у сыстэме кіраваньня. Толькі незалежныя ад дзяржавы выданьні даюць магчымасьць кожнаму чалавеку выказаць сваё меркаваньне паводле кожнай праблемы. Зразумела, што для несумленнай улады стан «празрыстасьці» зьяўляецца крыніцай пастаяннай трывогі. Таму яна імкнецца адабраць у апазыцыйнага руху магчымасьць адкрытага сумоўя з шырокай аўдыторыяй. І сама простая форма дасягненьня гэтай мэты ёсьць прыняцьце гэткіх праўных нормаў, на падставе якіх можна перапыніць дзейнасьць няўгодных для ўладаў арганізацыяў, і тым самым адабраць у іх «права голасу». Гэта мы й назіраем сёньня ў Беларусі: не прайшоў «перарэгістрацыю» — будзь ласкавы, сыйдзі з палітычнай арэны й замоўкні! А незалежным СМІ прадпісана як мага далей трымацца ад «неприкосаемых» арганізацыяў і не распаўсюджваць інфармацыю «от их имени».

Аднак давайце задумаемся: як гэта зразумець «от их имени»? У юрыспрудэнцыі такога роду фармуліроўкі называюцца «нормамі пашыранай трактоўкі» або, на юрыдычным сьлэнгу, «гумовымі нормамі». Гэта азначае, што пры ахвоце кожная згадка пра дзейнасьць партыяў ды грамадзкіх арганізацыяў, каторыя не прайшлі перарэгістрацыю, безь нічога ніякага можна разглядаць як «от имени». І тады чакай непрыемнасьцяў ад Дзяржкамітэту друку ці ад пракурора ў выглядзе папярэджаньняў зь вядомай судовай перспэктывай.

Аднак да чаго прывядзе падобная нарматворчасьць? Здагадацца ня цяжка. Па-першае, будзе ўзмацняцца працэс самаізаляцыі ўлады ад грамадзтва. І тады аўтарытэт давядзецца здабываць сілай. «Драконаўскія» праўныя акты — адзін з такіх сілавых элемэнтаў. Па-другое, партыі ды іншыя грамадзкія арганізацыі, каторыя не прайшлі перарэгістрацыю, будуць змушаныя сыйсьці ў падпольле. Добра гэта ці кепска — наўвочна прадэманстравалі ў свойчас арганізатары рэвалюцыйнай барацьбы.

Рэалізацыя свабоды выказваньня дае грамадзтву стабільнасьць, таму што дапамагае «выпусьціць пару» незадаволенасьці людзей. Яны тады менш адчуваюць цягу да гвалту дзеля дасягненьня сваіх мэтаў. Сёньня менавіта СМІ выконваюць функцыю «спускнога клапану». І ніводная разумная ўлада не павінная задрайваць наглуха кіпячы кацёл грамадзкіх жарсьцяў ды незадаволенасьці. Гэта — вельмі небясьпечна...

**Міхась Пастухоў, Юры Тапорашаў**

## *Віленская калекцыя*

# Кіно



Здымак Дзяніса Раманюка

Не, гэта не пра кінатэатар.

Можна зблізу аглядаць віленскую архітэктуру – мацаць рукамі, літаральна «абнюхаць» кожны закуточак. На прылеглых да старога гораду пагорках можна шукаць кропкі, зь якіх адкрываюцца шыкоўныя, велічныя панарамы. Аднак сёньня я прапаную калекцыю іншых карцінаў: яны рухаюцца як у кіно. Калі ідзеш па Вільні ці едзеш нейкім транспартам, малюнак перад тваімі вачыма цэлы час мяняецца. Вока выхоплівае шторазь новыя краявіды. Падлучыўшы трохі фантазіі ды тэорыю адноснасьці, можна ўявіць сябе гледачом у кінатэатры, а на экране – кіно пра віленскую архітэктуру.

Позьняя восень. Ноч. Я нясьпешна еду на машыне па Зыгмунтоўскай. Вуліца выгінаецца хваляй, паўтараючы рэчышча Вяльлі. Набліжаюся да гары Гедыміна. Самой гары не відаць, яна зьлілася зь імглістым небам. Затое выразна бачны замак –яго асьвятляе пражэктар. І здалося мне – замак ляціць у паветры, у вышыні...

Ёсьць у Вільні вуліца Пагулянка. (Вялікая Пагулянка цяпер перназваная ў вул. Басанавічуса). Ужо толькі за адну назву –Пагулянка – кожны турыст мусіць прагуляцца па ёй. Прычым ісьці трэба долу ў кірунку Старога гораду. Вуліца выгінаецца то ўправа, то ўлева, то ўгару, то долу, і перад вачыма паўстаюць, як у кіно, купалы ды званіцы ўсіх амаль віленскіх цэркваў і касьцёлаў.

Калі яшчэ ня жыў у Вільні, а толькі наяжджаў падзівіцца, паказала мне віленская сяброўка адзін краявід, які адкрываецца зь цягніка. Незадоўга перад вакзалам раптам «расступаліся» дамы, і адкрываўся выгляд на Вострую Браму. Над «Пагоняй», як грэбень зубцамі ўгору: вежы, купалы, сьпічакі, крыжы, коміны... Цяпер, калі выяжджаючы вяртаюся, стараюся (нібы ў дэтэктыўным кіно) не прапусьціць гэты краявід.

Аднойчы сябрук паклікаў мяне лавіць рыбу. Трэба было плыць па Вяльлі на гумовай лодцы ды ўвесь час закідваць вуду. Так мы плылі ад Немянчыны да самай Вільні. Рыба тая хутка мне надакучыла, і я проста сядзеў і дзівіўся краявідам. Падплываючы да горада, у прадмесьці Трынопаль, на левым беразе, стромым, высачэзным, убачыў касьцёл прыгожы, як... як і кожная віленская бажніца. І, сама цікавае, разьмешчаны касьцёл быў так, што вельмі зручна яго аглядаць было менавіта з лодкі. Ізноў паўтару: ты плывеш, рэчка выгінаецца, і, як у кіно, перад вачыма плаўна адкрываецца то адзін, то другі бок касьцёла – рэклямны відэакліп Вільні...

Хацеў-бы я займець адзін экзэмпляр у сваю калекцыю. Хацеў-бы павольна праляцець па-над Вільняй на паветраным балёне.

Бывае, бадзяюся па Вільні й... здымаю кіно. Дамы, палацы, бажніцы служаць мне акторамі. У кожнага свой строй, свой голас. Яны пачынаюць рухацца. Завязваецца драматычны сюжэт... Хацеў-бы, каб гэты сэрыял быў бясконцы.

**Сьцяпан Дзінь-Дзілевіч**

## Традыцыйная выстава

адкрылася ў Вільні напярэдадні новага 2000 г. Яна называецца «Хрысьціянства ў літоўскім мастацтве». На выставе прадстаўлены 5 тыс. экспанатаў з розных музэяў і архіваў Літвы, Польшчы, Латвіі, Нямеччыны, а таксама з прыватных калекцыяў. Самыя каштоўныя экспанаты — скарбы Віленскага архікатэдральнага сабору: залатыя й срэбныя прадметы касьцельнага ўжытку, усе выключна шэдэўры ювэлірнага мастацтва. Тэрмін «Літва» ў назве выставы разглядаецца ня толькі як сучасная назва Літоўскай Рэспублікі, а як Літва гістарычная, г. зн. выстава мае непасрэднае дачыненьне да беларускае гісторыі й мастацтва. Пра гэта сьведчаць хаця-б такія экспанаты, як тураўскае эвангельле XI ст. ці арнаты з слуцкіх паясоў XVIII-XIX ст. ст. Выстава рэпрэзэнтуе ня толькі каталіцкую канфэсію, але й іншыя плыні хрысьціянства: праваслаўе, уніяцтва, пратэстантызм. Размешчаная выстава ў Віленскім музэі прыкладнога мастацтва.

## Чарговы крызіс

на Нацыянальным літоўскім радыё й тэлевізіі закрануў таксама й беларускія праграмы. Беларуская тэлевізійная праграма «Віленскі сшытак» скарочаная да 15 хвілінаў, а радыёперадачы наогул прыпыненыя. Рахункі дзяржаўнага радыё й тэлевізіі арыштаваныя за няВыплату запазычанасьці. Адбылася зьмена кіраўніцтва. Зноўку вядуцца гарачыя дыскусіі пра рэфармаваньне кампаніі.

## «Балтыцкія хвалі»

такую назву атрымала новая радыёстанцыя, якая распачала працу ў Вільні ад Новага году. Станцыя пакуль што рэтрансьлюе бел. праграму «Польскага радыё» з Варшавы (пачатак аб 19.30). Яе можна прымаць у Літве і ў заходняй частцы Беларусі (разам зь Менскам). Вяшчаньне вядзецца на сярэдніх хвалях у дыяпазоне 612 Кгц альбо 490 м. У бліжэйшым часе мяркуецца павялічыць трансьляцыю да 8 гадзінаў у суткі. Будуць рэтрансьлявацца беларускія праграмы радыё «Свабода» й «Рацыя».

## Калядныя сьвяты

весела адгулялі ўсе бел. суполкі Літвы. У нашай школцы вучні падрыхтавалі калядпае прадстаўленьне — жывую батлейку. Сваю батлейку яны паказалі і ў школе, і ў касьцёле Сьв. Барталамэя, і на вечарыне клюбу «Сябрына». У беларускім садку адбылся раніштнік. Самых малых беларусаў віншаваў сам прэзыдэнт ЗБГА Лявон Мурашка. Беларуская суполка ў Сьвяньцянах чарговы раз правяла дабрачынную акцыю: закупіла 45 падручнікаў для дзяцей з малазабясьпечаных сем'яў. Па беларускай праграме «Віленскі сшытак» была паказаная па-сьвяточнаму абстаўленая прэзэнтацыя кнігі вершаў нашага земляка з Англіі Юрыя Весялкоўскага «Каляды на чужыне», выдадзенай нядаўна выдавецтвам «Рунь». Калядныя вечарынкі-пагулянкі арганізавалі клюб «Сябрына», Беларускі культурны цэнтар у Салечніках ды іншыя суполкі.

## Шчыра дзякуем

кс. Яну Шуткевічу, сястры-эўхарыстцы Натальлі, настаўніцы Валенцьіне Кавальчук за арганізацыю дзіцячага каляднага сьвяткаваньня. Таксама сардэчна дзякуем Міхасю Руневічу, дырэктару фірмы «Літпольаўта» за памяшканьне дзеля заняткаў дзіцячай каталіцкай грамадкі.

*Беларуская каталіцкая грамада*

## Радыё «З-над Віліі»

надзвычай папулярнае польскае радыё ў Вільні, распачало трансьляцыю беларускай праграмы Польскага радыё. Раней рэтрансьляваліся праграмы гэтага радыё на польскай і літоўскай мовах. Радыё «З-над Віліі» працуе ў дыяпазоне ультракароткіх хваляў. Яго добра чуваць ня толькі ва Ўсходняй Літве, але і ў прылеглых раёнах Беларусі: Астравецкім, Ашмянскім, Воранаўскім ды інш. Беларуская праграма на радыё «З-пад Віліі» пачынаецца аб 23.00.

## Віленскія вербы

«У нас на ня вельмі ўрадлівых палёх растуць цудоўныя кветкі, а зь іх робяць выдатныя віленскія вербы», — сказала на адкрыцьці 9 студзеня Чаконішскага рэгіянальнага дому пальмаў і побыту мэр Віленскага раёну спн. Л. Янушаўскене. Пасьля чаго яна й стараста Зуюнскай сянюніі спн. А. Сьнежка традыцыйна разрэзалі стужку перад дзьвярыма новаадкрытага дому. На цырымоніі адкрыцьця музэю прысутнічалі ген. консул Польшчы ў Літве сп. М. Яцкевіч, ваенны аташэ РП у Вільні сп. У. Мажэнда з жонкай, ст. спэцыяліст у этнакультуры мін. культуры ЛР спн. І. Селюкайтэ, старшыня Саюза палякаў Літвы сп. Рышард Мацейканец ды інш. Ініцыятарам-жа ды натхніцелем адкрыцьця рэгіянальнага дому пальмаў (вербаў) была кіраўнічка калектыву «Ціха навінка» Яніна Маркунене (цяпер і дырэктар музэю). Дом спраектаваны так, што нямалая частка яго занятая маляўнічымі чаконішскімі вербамі (пра іх ужо пісалася ў «Руні»). Астатняя плошча адведзеная пад прадметы тутэйшага сялянскага побыту, якімі ў падвіленскіх вёсках карысталіся да сярэдзіны XX ст: кросны, калаўроты, куфры, прасы й інш. Пальмы-вербы зробленыя рукамі майсцовых майстрыхаў Яніны Заморы, Вяславы Буйноўскай, Люцыі Наўс, Тэрэсы Пятрас, Крыстыны Ячнік, Зосі Тылінгі, Франі Рынкевіч, Тэрэсы Міхалькевіч і Ірыны Ёдкі. І прысутным было цяжка не пагадзіцца з словамі этнолята Лібартаса Клімкі, што «віленскія пальмы гэта ўнікальная зьява ня толькі ў маштабе Літвы, але й ва ўсёй Эўропы, бо праз пальмы адлюстроўваецца ўнікальная повязь чалавека з прыродай». А напярэдадні адкрыцьця ў музэі вербаў пабывала прадстаўніца ЮНЭСКА, якая таксама высока ацаніла ягоныя экспанаты... Усё было файна на тым адкрыцьці, адно мяне засмучала, што не было сярод ганаровых гасьцей нашых беларускіх прадстаўнікоў, хоць з гледзішча этнакультуры чаконішскія вербы гэта перадусім мастацкі здабытак беларускага народу.

**Юры Гіль**

## Доўгачаканы падарунак

атрымала нарэшце нашая бел. школка. Дзяржаўны камітэт па справах нацыянальнасьцяў і рэлігіі Беларусі закупіў для школы адумысловае абсталяваньне для габінэтаў фізыкі, хіміі, біялёгіі, а таксама кампутарную тэхніку, відыё-камэру, музычны цэнтар. Падарункі ўручылі пасол РБ у Літве сп. У. Гаркун ды дарадца ў справах культуры сп. У. Скараходаў.

*Рубрыку падрыхтаваў*
**Сяржук Вітушка**



**ЗАЯВА**
**Кансультацыйнай Рады апазыцыйных палітычных партыяў**

Вітаючы захады АБСЭ дзеля выхаду Беларусі з канстытуцыйнага й палітычнага крызысу цераз перамовы пра паўнамоцтвы будучага парляманту, выбарчае заканадаўства ды правядзеньне свабодных выбараў,

канстатуючы, што ўзурпаваная Лукашэнкам улада ў краіне і г. зв. «Палата прадстаўнікоў» вырашылі сваім парадкам, без узгадненьня з палітычнай апазыцыяй, прыняць заканадаўства, якое вызначыць арганізацыю й правядзеньне выбараў у гэтую марыянэтачную «Палату»,

канстатуючы, што сп. Лукашэнка заблякаваў парафінаваны бакамі пры пасрэдніцтве АБСЭ «Пратакол узгадненьня ўмоваў доступу палітычнай апазыцыі да дзяржаўных СМІ...»,

прымаючы да ўвагі, што сп. Лукашэнкам груба парушае ўзятыя на сябе абавязкі паводле Санкт-Пецярбургскай рэзалюцыі ПА АБСЭ, а таксама пункта 22 Стамбульскай дэкларацыі, і што ён жа сарваў перамовы, ініцыяваныя Эўрапэйскім Саюзам і Радай Эўропы,

канстатуючы, што ўладаю праігнараваныя заклікі да ўстанаўленьня ў краіне палітычнага клімату, свабоднага ад страху й палітычных перасьледаў, ня вызваленыя палівязьні, не прынятыя неабходныя меры ў пошуку зьніклых вядомых дзеячаў Віктара Ганчара й Юрыя Захаранкі,

будучы ўскрай занепакоеныя станам у краіне грамадзянскіх правоў і свабодаў, паглыбленьнем эканамічнага крызысу, міжнароднай ізаляцыяй і падзеньнем узроўню жыцьця беларускага насельніцтва,

**Кансультацыйная Рада апазыцыйных палітычных партыяў**

**падцьвярджае** сваю гатоўнасьць шукаць выйсьця з эканамічнага, палітычнага ды канстытуцыйнага тупіка цераз перамовы пра ўзнаўленьне канстытуцыйнага палажэньня аб допуску да СМІ, аб паўнамоцтвах будучага парляманту, аб прыняцьці справядлівага выбарчага закону, аб правядзеньні пад унутраным і міжнародным кантролем парляманцкіх і прызыдэнцкіх выбараў,

**заяўляе**, што прыняцьце выбарчага заканадаўства па-за перамоўным працэсам і захаваньне атмасфэры самаволі й гвалту пера́творыць такія выбары ў фарс, і апазыцыя ня будзе браць у іх удзел.

*Прынята на паседжаньні КР АПП 11 студзеня 2000 г.*

*Старшынствуючы* **С. Багданкевіч**

РУНЬ
27 студзеня 2000 №29


# Зайчык вушы прастудзіў



### Захварэў пявун...

Захварэў пявун, ахрып,
Пэўна ў пеўня страшны грып.
Маці, курыцы-квактухі,
Не хацеў, крыклівы, слухаць.
Ён хадзіў па садзе босы,
Абтрасаў на траўцы росы.
Пасьля гуляў, прапацеўшы,
Ён крычаў, на плоце сеўшы.
Па халодных лазіў лужах,
Вось таму і занядужыў.
Мо ангіна, можа грып?
Захварэў пявун, ахрып.

(Паводле С. Шушкевіча).

### Зайчык вушы прастудзіў

Зайчык вушы прастудзіў,
Закладае вату.
Каля лесу заблудзіў,
Ледзь прыплёўся ў хату.

Рукавічкі пагубляў
І прыбег бяз шапкі,
Сьнежкі часта ён шпурляў,
Адубелі лапкі.

Ён казаў, што лёд крышыў,
Прамачыў валёнкі,
Клаў у роцік ледзяшы,
Піў ваду з палонкі

(Паводле С. Шушкевіча)

### Варыць лекі мядзьведзь

Сталі дзеткі хварэць,
Варыць лекі мядзьведзь:
Аднаму — сунічнік,
Другому — чарнічнік,
Трэцяму — чабарок,
І для кожнага — мядок.
Бегаюць медзьведзяняты:
«Ты выдатны доктар, тата!»

(Паводле Н. Галіноўскай)

### Пракалоў камарык ножку

Пракалоў камарык ножку
Аб паломаную дошку.

Нясе маці сына ў хату,
Дастае бінты і вату.

– Куды-ж цябе ліха несла?
Ну, сядай, сынок, у крэсла!

Будзем ножку бінтаваць,
Рану ёдам заліваць.

(Паводле С. Шушкевіча)

### Кажа божая кароўка

Кажа божая кароўка:
– Вой, баліць мая галоўка!
Трэба, мабыць, палячыцца,
Ды далёка да бальніцы.
Не змагу дайсьці сама,
А радні ў мяне няма.

Гэта жук-сусед пачуў:
– Памагчы табе хачу,
У бальніцу к дактарам
Занясу цябе я сам.

(Паводле Н. Галіноўскай)



# Студзень

Вось і прыйшоў да нас самы сьцюдзёны месяц году — студзень. Месяц моцных маразоў і глыбокіх сьнягоў. Рэкі й вазёры скаваныя льдом, а палі й лясы пакрытыя сьнегам. Здаецца, што ўсё жывое замерла, заснула. Але-ж на сьнезе шмат разнастайных сьлядоў: гэта сьляды лясных мышэй, ласак, гарнастаяў, якія шукаюць ежы. Дзе-нідзе бачныя сьляды лісіцаў, што палююць за мышамі, зайцамі. І, канечне, больш за ўсё на пушастым сьнезе зайцавых сьлядоў.

Самыя вялікія жывёлы ў нашым лесе — ласі, каторыя трымаюцца цяпер маладых сасоньнікаў ды асіньнікаў, дзе можна знайсьці ежы й прытулку ад ветру. Дзікі невялічкімі статкамі шукаюць сабе жалуды й карэньні. Яны болей трымаюцца хмызьнякоў. Ім цяпер цяжка дый небясьпечна знаходзіць пракорм, бо па лясох гойсаюць ваўчыныя зграі. У ваўкоў пачаліся вясельлі, і сустрэча зь імі небясьпечная як лясным жыхарам, так і людзям.

На палёх, на бяссьнежных прагалінах пагоркаў, маленькія чародкі курапатак шукаюць зярняты. Хітрыя ды асьцярожныя летам сарокі й вароны цісну́цца да чалавечага жытла, голад ня цётка...

Студзень падзяляе суворы сэзон напалам. Адыходзяць шэрыя дзянькі, калі сьвітаньне са зьмярканьнем сярод дня сустракаліся.. Дзень пачынае прырастаць, што людзі й заўважаюць. Так і кажуць: «Дзень уваскрос!»

Паветра ў студзені асабліва чыстае, бо сьнег, падаючы, захоплівае з сабой розныя шкодныя дамешкі, а мароз, сваім парадкам, нішчыць мікробы. Сухое марознае паветра лічыцца здаровым. Вада таксама чысьцее. Водарасьці ці то адміраюць, ці то апускаюцца на дно. Прасьцейшыя арганізмы, ракі, рачныя смаўжы, здранцьвелымі, пахаваліся ў глеі. Калісьці студзеньскую ваду лічылі сьвятой, яна не псавалася доўгі час, лічылася памочніцай здароўю.

Але марозным студзень бывае звычайна на Віцебшчыне, Полаччыне, а на Гарадзеншчыне й на поўдні Літвы ў студзені здараюцца частыя адлігі, ідуць мокрыя дажджы з сьнегам. Ды цераз дзень-другі зноў выпадае сьнег, марозіць. А вось Вяльля ўзімку амаль ніколі не замярзае, толькі шпарка імчацца па ёй шэрыя, круглавідныя крыгі.

У марозьлівую ноч трашчаць ствалы дрэваў, чуецца выцьцё ваўкоў, у месяцовым бляску мільгацяць нечыя цені, дзесьці цяжка «вухкае» пугач, а лунь бязгучна аблятае паляну. Лес жыве сваім таямнічым жыцьцём.

Для людзей студзень таксама нялёгкі месяц году. Нават нягледзячы на тое, што ён дорыць ім шмат вясёлых сьвятаў. Вяскоўцы й на Каляды сьпявалі: «Мароз, мароз! Ідзі куцьцю есьці, летам не бывай, па межах не хадзі, пад калодай не ляжы, а яры не губі!» Сапраўды, трэба-ж дачакацца вясны, дагледзіць хатнюю жывёлу й вывесьці яе на пашу.

Ды гэта ўсё вясковыя турботы. Калісьці, у паваенныя гады, вёскі былі маладыя, шматлюдныя, а цяпер яны абязьлюдзелі ды састарэлі. Толькі ўлетку падворкі ажываюць дзіцячымі галасамі прыежджых з гараду ўнукаў. Сумна й настальгічна вёска дзяцінства адыйшла ў нябыт...

Павал Саўчанка

# Яна і Ён



Мне-б хацелася вярнуцца да старой, як сьвет, але заўсёды актуальнай праблемы.

У нашым грамадстве жанчына займае другое мейсца. На першым –мужчына. Шматлікія перашкоды, невядомыя яму, жанчына сустракае на кожным кроку. Часта тое, чым ганарацца мужчыны, для жанчыны ёсьць правіннасьць або нават злачынства. Асабіста мне зразумелае жаданьне многіх жанчынаў нарадзіцца мужчынам.

Мужчына адцісьняюць нас паўсюль у барацьбе за пяршынства. Калі-ж мы спрабуем змагацца, моцны пол перасьледуе нас як непрыемных канкурэнтак. Што самае сьмешнае, асабліва варожа сустракаюць нас у такіх колах, як палітыка, рэлігія, журналістыка, войска, паліцыя.

Напэўна, нашае імкненьне да асабістай незалежнасьці можна прызнаць гэткім самым справядлівым, як жаданьне кожнага народу быць свабодным і сувэрэнным. Чаму-ж нам загадзя ўгатаваная роля хатніх гаспадыняў і нянькаў? Мы таксама хочам займацца палітыкай, адукацыяй, навукай на патрэбным узроўні. Геніі й таленты ня падаюць зь неба, як зьнічкі, яны павінныя мець магчымасьць разьвівацца й набірацца ведаў, што, на жаль, нельга рабіць, стала застаючыся на другім мейсцы, будучы чыймсь ценем.

Аднак самае галоўнае, напэўна, не забывацца на тое, што мы ўсё-ж жанчыны. Аднойчы згубіўшы свабоду, мы яе зноў можам здабыць, але, забыўшы, што ты ёсьць жанчына, гэтага ўжо не направіш. На нас ляжыць адказнасьць больш цяжкая, чым на мужчынах. Мы павінныя ствараць у хаце ўтульнасьць, парадак. Калі ў сямейным агмені не падтрымліваць агонь каханьня й пажады, дык ён можа згаснуць назаўжды. Ніколі мужчына не захочыць ісьці дамоў, калі яго там не чакае каханая жанчына.

Сыйшлі ў нябыт тыя часіны, калі для жанчыны лічылася непрыстойным быць моцнай і перакананай у сабе. Дык давайце-ж будзем сьмелымі й прыгожымі, пастараемся заняць пачэснае мейсца ў грамадзкім жыцьці. Давайце ўвойдзем у новае тысячагодзьдзе рука ў руку з нашымі вечнымі апанэнтамі, мужчынамі, без каторых жыцьцё было-б сумнае й манатоннае, дый проста немагчымае. І няхай будзе так, як гаворыцца ў Сьвятым Пісаньні: «У радасьці й горы, у хваробе й здароўі, разам да самае сьмерці».

В. А.

# Лінгвацыд або выцісьненьне мовы

*Працяг. Пачатак у N 27, 28.*

**6. «Збліжэньне» моваў**

Адной зь ілюзіяў XIX ст. было сьцьверджаньне аб зьліцьці народаў у адзіную агульначалавечую нацыю з агульначалавечай моваю. Ажыцьцяўляць гэтую ілюзію ўзялася Камуністычная партыя Савецкага Саюзу. Язэп Сталін сказаў у 1950 г.: «...мы будзем мець справу не з дзьвюма мовамі,.. а з сотнямі нацыянальных моваў, зь якіх у выніку доўгага эканамічнага, палітычнага ды культурнага супрацоўніцтва нацыяў будуць вылучацца спачатку найбольш багатыя адзіныя занальныя мовы, а потым занальныя мовы зьліюцца ў адну супольную міжнародную мову,.. якая... будзе новай мовай, што ўбярэ ў сябе лепшыя элемэнты нацыянальных і занальных моваў». Паводле Сталіна, адна такая «занальная» мова павінная была ўтварыцца ў СССР. Лёгка здагадацца, на аснове якой мовы павінная была паўстаць гэтая «новамова».

Яшчэ раней, напачатку 30-х гг., кампартыя распачала наступ на адметнасьці беларускай мовы. Ва ўступе да ўрадавага дэкрэту «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу ад 28 жніўня 1933 г.» гаварылася, што «нацыянал-дэмакратызм (г.зн. нацыянальна арыентаваная плынь беларускай інтэлігенцыі — *В. Г.*) імкнуўся ўсімі мерамі і спосабамі адарваць беларускую літаратурную мову ад мовы шырокіх беларускіх працоўных мас, стварыў штучны бар'ер паміж беларускай і рускай мовамі і засьмечваў беларускую мову рознымі сярэднявяковымі архаізмамі і буржуазнымі вульгарызмамі». Дэкрэт уводзіў «наркомаўскую» форму беларускай мовы згодна русыфікацыйным прынцыпам.

Рэформа 1933 г. і далейшая моўная палітыка ў БССР механічна набліжалі беларускую мову да рускай. Гэты працэс добра паказаў выдатны наш мовазнаўца Станіслаў Станкевіч у сваёй, надрукаванай у 1962 г., зразумела, за мяжоў працы «Русіфікацыя беларускае мовы ў БССР і супраціў русіфікацыйнаму працэсу». Рэформа 1933 г. ўводзіла ў нашую мову каля 30-ці чужых ёй фанэтычных ды марфалягічных асаблівасьцяў. Паступова пачаў уводзіцца ў беларускую мову й рускі лексычны матар'ял. Цалкам выкідваліся з ужытку гэткія словы, як «асыміляцыя», «русыфікацыя», дэнацыяналізацыя», катораыя нагадвалі аб рэальнай пагрозе беларускаму этнасу ды ягонай мове. У выніку такога «кіраваньня зьверху» нашая мова зьменшалася да памеру газэтнага слоўніка. З дапамогай прыпадабненьня беларускай мовы да рускай спрабавалі першую зрабіць бляклай копіяй другой. А копія заўсёды горшая за арыгінал, балазе арыгінал заўсёды быў «к услугам», паколькі «Я русский бы выучил только за то, что им разговаривал Ленин».

«Зьліцьцё» і «прыпадабненьне» прывяло да росквіту г. зв. «трасянкі», у каторай беларуская й руская мовы перамешаныя да непазнаньня. Зь цягам часу пазычанае пачало ўспрымацца як сваё, а сваё выштурхоўвацца нібыта іншароднае.

**7. Стаўленьне да носьбітаў мовы**

Мураўёў-Вешальнік выдаў 1 студзеня 1864 г. «Часовыя правілы для народных вучылішчаў паўночна заходніх губэрніяў», згодна якіх мяйсцоваму беларускаму й польшчанаму насельніцтву не аказваўся давер. Даверам паводле «правілаў» карысталіся толькі сапраўдныя велікаросы з унутраных вялікарускіх губэрніяў, на якіх не ляжала ані ценю колечы-якой «тутэйшасьці» ды прыхільнасьці да Беларусі. Рэптыльны часопіс «Вестник Западной России» ў лістападзе 1864 г. ажно захлінаўся ад радасьці, што, па-першае, у Вільні, а потым і ва ўсёй Беларусі былі адкрытыя народныя вучылішчы для нярускіх вучняў, якія «зьяўляюцца радаснай падзеяй для кожнага расейца... У іх захоўваюцца зачаткі таго роднага саюзу, якому прызначана замацаваць навекі непарушную сувязь тутэйшага краю з рэштай нашай неагляднай бацькаўшчыны! Усе мы, расейцы, у кім б'ецца «истинно-русское» сэрца, павінныя з прыхільнай увагаю сачыць за ходам і разьвіцьцём народных школаў і ўсімі залежнымі ад нас мерамі дапамагаць іхняму росквіту. Нельга не аддаць належнага клопатам дырэкцыі народных школаў і ўсяго мяйсцовага расейскага грамадзтва, дзякуючы якім кожны вучань Паўночна-Заходняга краю (так тады акупанты называлі Беларусь — *В. Г.*) атрымае цяпер цьвёрдае перакананьне, што край, у якім ён жыве, заўсёды быў і будзе рускім. Ранейшы мала пісьменны настаўнік заменены цяпер прыбышам з унутраных губэрніяў, жонкі гэтых настаўнікаў бясплатна навучаюць дзяцей расейскай мовы, начальства зрабіла ўсё, што толькі магло, — грамадзтву застаецца толькі заявіць сваю прыхільнасьць расейскай народнай асьвеце».

Палітыка паводле Мураўёва працягвалася ў адносінах да Беларусі вельмі доўга. Ня лепшыя былі адносіны да носьбітаў беларускай мовы ў 20-30-ыя гг. у міжваеннай Польшчы, асабліва пасьля выхаду г. зв. «моўнага закону» ў 1924 г. У сакрэтным дакуманьце навагрудзкага ваяводы (красавік, 1939г.) перад мяйсцовымі ўладамі ставілася задача «абсалютнага выэлімінаваньня (выключэньня — *В. Г.*) няпольскага элемэнту з настаўніцкіх становішчаў», а яшчэ з 1937 г. праводзілася ачышчэньне ад беларусаў пэрсаналу ў мяйсцовых самаўправах.

Падобная палітыка праводзілася і ў БССР, калі рэпрэсыўнымі мэтадамі, калі больш прыхавана.

**8. Асьвета**

Чыя асьвета — таго й мова. Гэтую даўнюю ісьціну добра ведалі тыя грамадзкія сілы, якія кіраваліся мэтаю выцісьненьня беларускай мовы з ужытку. Яшчэ А. Цьвікевіч у сваёй знакамітай кнізе «Западно-русизм» зьвярнуў увагу на тое, што расейская палітыка ўвесь час падозрана ставілася да «Захаду» й змагалася супраць заходніх уплываў на беларускую моладзь.

У 1727 г. смаленскі архіепіскап Філафей скардзіўся ў Сьвяцейшы Сынод, што «смаленская шляхта пасылае сваіх дзяцей вучыцца ў лацінскія школы за літоўскі рубеж». Сынод паведаміў пра гэта Вярхоўны Тайны Савет, і 16 лютага 1728 г. быў напісаны «высочайший указ» Сыноду, каб «смаленскае шляхты дзяцей за рубеж ніяк не пушчаць і абвясьціць гэтай шляхце, што калі яна сваіх дзяцей лацінскай ды іншай мовам вучыць жадае, каб вучыла іх у расейскіх школах, паколькі гэткіх школаў у Маскве ды Кіеве нямалы лік».

Пазьней Кацярына II выказвала сваім прадстаўнікам у Беларусі жаданьне, каб паміж Беларусьсю й Расеяй «исчезла грань инородная и чтобы эти древние земли русские сделались русскими не только именем, но душою и сердцем». Бліжэйшы супрацоўнік Кацярыны II, украінец А. Безбародка, лічыў, што «сяляне ў Літве і ў нас (У Расеі — *В. Г.*) адзіную мову ды норавы ў суседзтве маюць», што дзеля таго, каб яны «абруселі й да далучэньня прызвычаіліся», трэба пасылаць туды для вярхоўнага кіраваньня «не руссоплётов и т. д.», а людзей паважаных, ад дзейнасьці каторых «выходзіла-б узаемная павага». З мэтаю такога абрусеньня Кацярына II у 1798 г. выдала Палажэньне аб «галоўных ды малых народных вучылішчах» у Полацкай і Магілеўскай губэрніях «для народу, а не для шляхты». Вось чаму «малыя расейскія школы» ў 1791 г. былі адкрытыя ў Воршы, Капысі, Мсьціславе, Чэрыкаве, Чавусах, а ў 1794 г. — у Віцебску.

Не заўсёды расейскія ўлады прытрымліваліся падобнага прынцыпу. У першай і другой трэці XIX ст. яны дазволілі распаўсюдзіцца ў Беларусі польскай асьвеце, жадаючы знайсьці ў спалянізаваных магнатах і шляхце саюзьнікаў, якія-б лаяльна служылі дзяржаве. Паразуменьне было часовае, і ўжо пасьля паўстаньня 1831 г. у Беларусі апякун Віленскай навучальнай акругі граф Навасільцаў пісаў: «Надобно, начиная с университета, вводить преподавание на языке русском, ибо разность в языках всегда питает взаимную недоверчивость. Филологическое исследование языка и даже его простое изучение пробуждают исторические воспоминания о некогда бывшей самостоятельности и независимости государства, семена беспрерывных мятежных усилий, а также чувство ненависти и зависти, что всё, совокупляясь вместе, рождает злые умыслы».

Справа карэнным чынам зьмянілася ў ходзе падаўленьня паўстаньня 1863 г. Мураўёвам-Вешальнікам. Апякун Віленскай навучальнай акругі за ягоны час І. Карнілаў адкрыў дзесяць павятовых школаў і некалькі сотняў народных школаў з настаўнікамі-вялікаросамі. Гэтую практыку вельмі ўхваляў ужо згаданы «Вестник Западной России». Напрыклад, у 1867 г. у ім выказваецца думка, што «Народныя школы зьяўляюцца ў Заходнім краі самым магутным ды пасьпяховым сродкам дзеля ягонага абрусеньня. Асьвета тутэйшага народу ў духу праваслаўнае веры й рускае народнасьці прыводзіць да вынікаў надзейных і моцных. Расейская кніга, расейскія паняцьці, што вынікаюць з гэтых кнігаў пад кіраўніцтвам расейскіх настаўнікаў, павінныя глыбока западаць у сьвядомасьць мяйсцовага насельніцтва... Можна й трэба прызнаць, што цесная повязь і грунтоўнае зьліцьцё тутэйшага народу з народам вялікарускім падрыхтоўваецца тут галоўным чынам праз сыстэму народнай асьветы». Рэдактар часопісу К. Гаворскі спадзяваўся, што пры распаўсюджаньні расейскага пісьменства «беларусы натуральна й лёгка загавораць размоўнай расейскай мовай і з ахвотай выкінуць невялікі лік зьбеларушчаных польскіх словаў, якія й дагэтуль былі лішнія». А міністар асьветы Расеі граф Д. Талстой у 1870 г. пісаў, што «канчатковаю мэтаю асьветы ўсіх іншародцаў, каторыя пражываюць у межах нашай Айчыны, несумненна, павіннае быць абрусеньне» (падкрэслена мною — *В. Г.*).

У выніку падобнай палітыкі ў Беларусі ў 1914 г. было 4 тыс. пачатковых школак (зь іх палова — царкоўна-прыхадзкія) — і ўсе яны на расейскай мове навучаньня. Як вучылі дзяцей рускай грамаце й што з гэтага выходзіла, яскрава напісаў ва ўспамінах зь дзяцінства вядомы беларускі нацыянальны дзеяч Язэп Кіпель («Беларус» за 1998 г.).

І вось што цікавае. У гісторыкаў былога БССР адбываюцца спрэчкі наконт таго, ці была ў сапраднасьці русыфікацыя Беларусі, ці яе не было (нібыта крыніцы не адпавядаюць факту абрусеньня беларусаў). Так, напрыклад, П. Ц. Петрыкаў ставіць пад сумніў існаваньне русыфікацыі як зьявы, не прыводзячы пры гэтым спасылак на крыніцы. У доказ сваёй пазыцыі Петрыкаў прыводзіць факт стварэньня з Магілеўшчыны й Віцебшчыны Беларускага генэрал-губэрнатарства. Паводле ягонага меркаваньня «такія адносіны Расеі да Беларусі ніяк не назавеш «русыфікацыяй»» — нібыта прыведзены факт мае нейкае дачыненьне да той палітыкі, якую ў сапраўднасьці праводзілі царскія ўлады! Увядзеньне рускай мовы ў школах у Беларусі Петрыкаў русыфікацыяй ня лічыць таму, што «літаратурнай мовы на той час не было, як ня мелася й беларускай інтэлігенцыі... Не было беларускіх настаўнікаў, падручнікаў, беларускіх выдавецтваў і іншых атрыбутаў нацыянальна-культурнага жыцьця». Нібыта гэтае замінала царскай уладзе пры жаданьні ўводзіць бел. мову навучаньня! Далей ідзе дзіўны гістарычны пасаж: «Калі ўсё гэта было напрацавана Дунінам-Марцінкевічам, Багушэвічам, Цёткай, Купалам і Коласам.., тады «русыфікацыя» саступіла месца беларусізацыі» (!)

Тут робіцца вядомая з лёгікі памылка: «пасьля гэтага» не азначае «у выніку гэтага». П. Ц. Петрыкаў добра ведае, што беларусізацыя пачалася зусім ня з той прычыны, што зьявілася беларуская літаратура, настаўнікі, выдавецтвы ды інш., а таму, што беларуская інтэлектуальная эліта патрабавала гэтага насуперак перашкодам з боку царызму. І толькі пад нямецкай акупацыяй у 1915 г. зьявіліся першыя бел. школкі ў Заходняй Беларусі. А ва Ўсходняй Беларусі яны ўзьніклі толькі пасьля абвешчаньня БНР ва ўмовах той самай нямецкай акупацыі. Так што беларусізацыя зьмяніла сапраўдную русыфікацыю, а не «русыфікацыю» ў двухкосьсі. І зусім ня з той прычыны, на якую спасылаецца П. Ц. Петрыкаў.

Больш блізкі да ісьціны А. В. Залескі, калі ў адказ Петрыкаву нагадвае яму «агульнавядомае палажэньне, што ў апошнія стагодзьдзі заваёўнікі часьцей за ўсё распаўсюджвалі дзяржаўны статус сваёй мовы на падпарадкаваныя імі новыя тэрыторыі». Залескі ўказвае на яшчэ адно памылковае сцьверджаньне Петрыкава, нібыта ў XIX ст. не было бел. літаратурнай мовы, нагадваючы, што яна йснавала ўжо ў XVI-XVIII ст.ст., а ў пачатку XIX склалася й новая бел. літаратура. Залескі згадвае вядомы факт, што «пры ўсім гэтым беларуская мова не дапускалася ў дзяржаўную сфэру, не было беларускіх школаў, хоць знайшліся-б і настаўнікі, і маглі-б быць складзены падручнікі».

Аднак і І. А. Залескі лічыць, што сярод іншых «далучаных да Расейскай Імпэрыі краінаў русыфікацыя найменш адмоўны ўплыў аказала на беларусаў». Пры гэтым ён не прыводзіць фактаў, якою меркаю адмервалася ім ступень той «адмоўнасьці» (ці то «станоўчасьці»?) русыфікацыі беларусаў. Гэта як у анэгдоце пра напалова парожнюю ці то напоўненую шклянку. Нагадаю Залескаму, што паўрусыфікацыі, як і паўпраўды, у прыродзе не бывае.

*Працяг у наступным нумары*

**Валянцін Грыцкевіч**

# Магілеўскі мэдычны інстытут у Новай Вільні

Здавалася б, што гістарычную мэдычную фактаграфію Літвы цалкам асьвятляюць капітальныя працы В. Міцэльмахера ды Ё. Мяшкаўскаса. Аднак, аказваецца, што нават адно пакаленьне хавае ня толькі непазнаныя, але й інтрыгуючыя факты. Толькі праз 50 гадоў адважыліся загаварыць пра Магілёўскі Мэдычны Інстытут, што ў гады акупацыі знаходзіўся ў Новай Вільні, ягоныя студэнты, адкрыць свае архівы. Яшчэ ня так даўна гаварыць пра гэтую вышэйшую школу было небясьпечна, хаця Магілеўскі Мэдычны Інстытут, падчас вайны перанесены ў Літву, служыў і быў патрэбны беларускаму народу. Сёньня мы павінныя узгадаць яго, як гістарычны факт важны для абодвух нашых народаў, для іхняй культуры, для гісторыі нашай мэдыцыны.

У даваеннай Савецкай Беларусі дактароў рыхтавалі дзьве вышэйшыя школы — Мінскі й Віцебскі мэдычныя інстытуты. Зразумела, што вайна перапыніла вучобу, і таму студэнтымэдыкі папоўнілі сьпіс беспрацоўных. Якраз у той час беларускія патрыёты, выкарыстаўшы ўмоўную аўтаномію ў галіне асьветы, распрацавалі канцэпцыю нацыянальнай школы. У ейнай структуры быў прадугледжаны і ўнівэрсытэт з мэдычным факультэтам (інстытутам). Таму не было ніякай нечаканасьці, калі 27 траўня 1943 г. менская «Беларуская газэта» абвесьціла, што ў Магілеве пачне працаваць мэдычны інстытут. Напачатку ставілася мэта даць магчымасьць атрымаць мэд. адукацыю тым студэнтам, каторыя вучыліся перад вайной. Навучаньне меркавалася распачаць толькі на старэйшых курсах. Плянавалі рыхтаваць выключна спэцыялістаў для клінікаў, а падрыхтоўку ў іншых прафэсіях адкласьці на будучыню. Месцазнаходжаньне інстытуту не было зьвязанае з патрабаваньнямі ваеннага часу, хаця пры адсутнасьці цывільнай беларускай адміністрацыі трэба было ўлічваць ваенныя тылавыя інструкцыі. Дзеля вырашэньня арганізацыйных справаў пры Менскай гарадзкой управе быў створаны адумысловы сакратарыят. У Магілеў быў камандараваны пэдагагічны пэрсанал, каторы быў павінен заняць 8 з 15 заплянаваных катэдраў і адну навуковую лябараторыю. Інстытуту была перададзеная ацалелая бібліятэка Бел. Дзяр. Мэд. Інстытуту, фармакалягічнае й гігіенічнае абсталяваньне. Для 200 студэнтаў плянавалі бясплатнае вучэньне й пражываньне ў інтэрнаце. Кіраўніком інстытуту ў той час стаўся дэкан мэдычнага факультэту Фрыбургскага ўнівэрсыту прафэсар Наўкас. У Менску ж арганізаваць інстытут было немагчыма, бо горад быў вельмі разбураны. Інстытут адкрылі ў менш разьбітым Магілеве, у будынку бальніцы ймя С. Боткіна. 10 чэрвеня 1943 г. — першы дзень працы інстытуту. На жаль, у Магілёве не пасьпелі як сьлед разгарнуцца праз блізкае суседзтва з фронтам. Таму студэнты былі адпушчаныя дамоў, а іхнія настаўнікі вярнуліся ў Менск і чакалі новых указаньняў.

Далейшае йснаваньне інстытуту было зьвязанае зь Літвой. Ягоным заснавальнікам удалося знайсьці параўнальна спакойнае на той час месца — будынак шпіталю для вааенапалонных у Новай Вільні, дзе дагэтуль (яшчэ з 1903 г.) месьцілася псыхіятрычная бальніца. (Цяпер тут зноў знаходзіцца Віленская псыхіятрычная клініка).

У той самай менскай газэце была апублікаваная інфармацыя, што мэдычны інстытут у Новай Вільні (дзенідзе названы «навукова-мэдычным») пачаў працаваць 7 лістапада 1943 г. І тут, як было задумана раней, былі адкрытыя 3 апошнія курсы. Дырэктарам інстытуту быў назначаны аталарынголяг Мікалай Сьцяпанаў, які перад гэтым працаваў у Магілеўскай управе загадчыкам аддзелу аховы здароўя. Пэдагагічны пэрсанал інстытуту налічваў каля 20 чалавек, ня толькі тых, хто перад вайной працаваў на пэдагагічнай працы, але й дактароў-практыкаў. Унутраныя хваробы выкладаў праф. А. Ліноўскі, праф. А. Багдановіч, дац. Дзешчыц, док. В. Ільінская, док. Грыневіч-Самборская, хірургію — праф. Я. Аляксейчык, атарыналагінгалёгію — праф. М. Сьцяпанаў, скураныя ды вэнэралягічныя захворваньні — дац. А. Буднікаў, док. П. Крукоўскі, паталягічную анатомію — праф. Я. Самборскі, нэрвы й псыхічныя захворваньні — праф. С. Грынкевіч, гінэкалёгію — праф. М. Сяргееў. (Дарэчы, беларускую мову ў інстытуце выкладаў М. Пецекевіч — *заўв. рэд.*). Да таго ж некаторыя дысцыпліны выкладалі дактары-ваеннапалонныя. Сенат з 7 выкладчыкаў інстытуту меў права даваць і даваў вучоныя званьні. Апроч таго большасьць пэдагогаў працавалі ў Новай Вільні ў абсталяванай амбуляторыі, абслугоўваючы мяйсцовых жыхароў. Гэты неўкамплектаваны пэдагагічны калектыў вучыў каля сотні студэнтаў 3, 4, 5 курсаў. Паводле сваёй геаграфіі яны былі з усіх рэгіёнаў Беларусі. Тут вучыліся студэнты зь Менску, Смаленску, Бабруйску, Слуцку, Магілева, Віцебску, Полацку ды інш. мясцовасьцяў. Паводле нацыянальнага складу гэта былі пераважна беларусы, аднак былі й рускія, каторыя не расставаліся з уніформай славянскай арміі. Выкладаньне вялося ў асноўным на рускай мове, хаця некаторыя пэдагогі тлумачылі прадметы па-беларуску. Зразумела, у тагачасных экстрэмальных умовах вучоба ў інстытуце не магла быць паўнавартасная. У студэнтаў былі кепскія матар'яльныя ўмовы. Пра гэта сьведчыць і дырэктар інстытуту М. Сьцяпанаў у сваім прашэньні да Беларускага таварыства помачы. Ён прасіў 44 студэнтам стыпэндыю 30 Rm, каб яны маглі купіць кавалак мыла, схадзіць у лазьню й г. д. Атрыманыя грошы мала чым змаглі дапамагчы, бо прыйшлі перад самым канчаткам вайны. У 1944/45 школьным годзе апеку за інстытутам узяла на сябе Беларуская Цэнтральная Рада. 10 чэрвеня 1944 г. асаблівы дзень у гісторыі інстытута. У гэты дзень 32-ум ягоным абсальвэнтам былі выдадзеныя дыплёмы. Маладыя мэдыкі пакляліся быць заўсёды справядлівымі, шчырымі й гуманнымі ў адносінах да сваіх будучых пацыентаў.




Пячатка «Цэнтральная Мэдычная Бібліятэка пры Бел. Дзярж. Мэд. Інстытуце» на кнізе, перададзенай у бібліятэку Магілеўскага Мэд. Інстытуту.

Аднак гісторыя па-свойму распарадзілася іхнім лёсам. Праз месяц Новая Вільня мела ўжо новых гаспадароў — яна апынулася ў руках Чырвонай арміі. Частка пэдагогаў і студэнтаў разам з дыр. М. Сьцяпанавым падалася на Захад усьлед за фронтам. Тыя, хто застаўся, былі старанна прафільтраваныя: нехта патрапіў у Сыбір, нехта расплаціўся кароткім спалохам, частка дык і зусім была незакранутая. Зразумела, што выдадзеныя Магілеўскім Мэдычным Інстытутам дыплёмы аказаліся нядзейснымі...

**А. Андрушыс, Я. Цішчанка**

# Як абараніцца ад махляроў

*Апошнім часам у Вільні, дый ва ўсёй Літве, разьвялося шмат розных аферыстаў ды махляроў. Цалкам абараніць сябе ад махлярства немагчыма, аднак паменшыць шкоду ад кантакту зь імі у нашых сілах. Паспрабуем гэта зрабіць разам.*

*Ахвярамі вышэйпамянёнай катэгорыі людзей робіцца перадусім жаночае насельніцтва 14-25-гадовага й 45-80-гадовага веку. Мужчынаў сярод пацярпелых значна менш.*

*Махляроў, як кветак у садзе, шмат усялякіх. І кожны зь іх займаецца сваёй справай. Працуюць яны як па-адзіночна, гэтак і групамі. А мэта ў іх адна — распрануць «лаха» (даверлівага чалавека).*

**1. «Праўдзіцы»**

Яскравы прыклад — цыгане. Яны ў асноўным атабарыліся на нашых вакзалах, рынках і каля буйных крамаў. Трэба падкрэсьліць, калі «злодзеі» працуюць рукамі, дык «праўдзіцы» выкарыстоўваюць «гібкасьць розуму». Яны маюць за мэту гэтак «апрацаваць» цябе, каб ты ім сам аддаваў грошы, а яны з пачуцьцём уласнага гонару прымалі іх.

Напрыклад, ідзеш ты каля цэнтральнага ўнівэрмагу, і цябе спыняе цыганка з банальным пытаньнем «Колькі зараз гадзінаў?» ці «Як прайсьці да..?» й пад. Калі ты спыніўся й пачаў адказваць, 50 адсотак перамогі ўжо на ейным баку, бо ты ўжо падпаў пад ейны гіпноз. Уважліва выслухаўшы адказ, цыганка задае чарговае пытаньне. (Гаворка пра гаданьне пакуль што не вядзецца). Усе гэтыя «нявінныя» пытаньні дапамагаюць вашай суразмоўніцы (выдатнаму, дарэчы, псыхолягу!) зразумець твой унутраны настрой, наколькі ты падпадаеш пад зьнешні ўплыў, пра глыбока прыхаваныя эмоцыі ды інш.

Прыкладна праз 5 хвілінаў цыганка складзе твой даволі дакладны псыхалягічны партрэт, і размова незаўважна пяройдзе на цябе самога. Яна пачне ласкава дзячыць табе за «каштоўную» інфармацыю, маўляў, такіх добрых і душэўных, як ты, людзей цяпер амаль не засталося, ніхто ні з кім нават размаўляць ня хоча... У працэсе далейшай размовы ты раптам заўважаеш, што ўжо даўно ведаеш гэтую жанчыну, пачуваеш сябе зь ёй лёгка ды проста. Яна цікавы суразмоўнік, спачувае й клапоціцца пра цябе. Такое ўражаньне, нібыта вы вельмі старыя знаёмыя.

І вось тут цыганка спачатку паведамляе, што ў цябе «сглаз», «порча», «отрицательная сила», «чёрный наговор» і пад. Затым яна прапануе ўсяго за 3-5 літаў (кошт сьмехатворны) высьвятліць хто-ж навёў тую «порчу», «сглаз» і г. д., дый, увогуле, распавесьці, які лёс цябе чакае ў будучым... У хуткім патоку словаў твой розум фіксуе толькі тое, што сапраўды было й, зь вялікай верагоднасьцю, можа адбыцца. У цябе складваецца ўражаньне, што «праўдзіца» гаворыць пра цябе чыстую праўду! У сапраўднасьці-ж цыганка «выдае ў эфір» свае звычайныя, стандартныя фразы з паправкамі на асаблівасьці мяйсцовага жыхарства й канкрэтна — на цябе.

Праглынуўшы ейны 10-хвілёвы тэкст, ты запомніш ня больш 6-7 адсотак ад яго. І гэта не цыганка «выдае» твой лёс, а проста твой розум выбраў з усяго тэксту толькі тыя словы й фразы, з каторымі цябе нешта зьвязвае, аб'яднаў гэта ў адно цэлае, надаў выпадковым словам лягічнасьці й прычыннасьці. І вось перад табой кранальная карціна тваіго мінулага, цяперашняга, будучага...

Тым часам цыганка кажа табе, што ўсё сказанае ёю чыстая праўда, дый сам ты ўжо гатовы паверыць, што твая новая «сяброўка» мае дар «прадбачаньня». Ты разьвітваешся зь ёй зь лёгкім сэрцам, каб назаўтра сустрэцца зноў з сваёй «дабрадзейкай» дзеля зьняцьця зь сябе «порчи», «сглаза», «отрицательной энергии» (у залежнасьці, што табе больш падабаецца). Спаткаешся ты зь ёй на тым самым мейсцы, у той самы час. Праўда, чарговая «працэдура», будзе каштаваць табе ўжо 20 літаў, а каб ты не забыўся пра сустрэчу, трэба пакінуць «заклад»: гадзіньнік, бранзалетку, ланцужок, пярсьцёнак, завушніцу, — на твой выбар...

Калі ў цябе ня стала розуму адвадзіць махлярку, да спатканьня ў чарговым нумары «Руні»! Я раскажу табе пра тых, хто падманам заваладае чужой маёмасьцю ці набывае права на яе.

**Сямён Махлярэнка**

# Беларусы ў Афрыцы ў 1942-48 гг.

## Сьв. памяці айца Міхаіла Бажэр'янава

Разам з польскім войскам пад камандаваньнем генэрала Андэрса, якое ў 1942 г. выехала з СССР, было шмат беларускіх цывільных людзей: сем'і вайскоўцаў, іхнія дзеці, а таксама сіроты ды іншыя. Пасадка на параплавы адбывалася ў порце Краснаводзк на Касьпійскім моры, адкуль плылі да іранскага порту Пэхлеві, а стуль дабіраліся пераважна да Тэгерану. Вайскоўцы накіроўваліся далей — у Ірак і Палестыну, а цывільныя на кароткі час заставаліся ў Тэгеране. Тут іх перагрупоўвалі з мэтаю разьвесьці па ўсім сьвеце. Гэтыя няшчасныя людзі, ахвяры камуна-сталінскага рэжыму (былыя «спэцперасяленцы») трапілі, хто ў Індыю, хто ў Новую Зэляндыю, хто ў Палестыну, Ліван, Мэксыку, Танзанію (тады Танганіка), Радэзію, Уганду, Паўднёвую Афрыку ды іншыя краіны. Сялілі іх пераважна ў лягерох, дзе было бясплатнае утрыманьне, лячэньне, школьная асьвета. Хто меў здароўе ды сілы, яшчэ трохі дарабляў на розных работах. Дзеці пайшлі ў польскія школы — пачатковыя й сярэднія.



*1911 — 1946*

Айцец Міхаіл выкладаў у школах Закон Божы, езьдзіў у іншыя лягеры ў Афрыцы, дзе былі праваслаўныя вернікі, каб несьці душпастырскую апеку, падтрымліваць у людзях дух у чужым, не заўсёды спагадным



*Прыхаджане царквы ў лягеры «Тэнгеру», Танзанія, 1946.*

Адзін з найбуйнейшых лягероў у Афрыцы — «Tengeru» («Тэнгеру») — знаходзіўся ў Танганіцы каля мястэчка Arusha (Аруша). У гэтым лягеры апынулася шмат беларусаў: мужчыны, няздатныя да войска, жанчыны, дзеці, сіроты. Сярод іх былі мая маці, бабка, тры сястры, а таксама мая будучая жонка з сваімі бацькамі й братамі. На шчасьце, у лягеры пасяліўся праваслаўны сьвятар, айцец Міхаіл Бажэр'янаў. Ён быў расеец, паходзіў зь Вільні. Паводле словаў людзей, каторыя добра яго ведалі, а. Міхаіл быў вельмі адукаваны, высокакультурны й энэргічны чалавек. Дзякуючы апошняй сваёй якасьці, у «Тэнгеру» вельмі хутка зьявілася царква, у якой рэгулярна адпраўляліся багаслужбы. У царкве меліся вельмі прыгожыя абразы — іх намаляваў адзін італьянскі мастак (тады ваеннапалонны). Царкву наведвалі ня толькі праваслаўныя беларусы, а і ўкраінцы, і мясцовыя грэкі.

Зарганізаваў а. Міхаіл і два царкоўныя хары — дзіцячы й дарослы. Моладзь была ўцягнутая ў царкоўную працу ў якасьці прыслужнікаў, памочнікаў пры канцыляры, у друкарні ды г. д. Таму ня дзіўна, што двое хлопцаў з «Тэнгеру», ужо пасьля вайны, уступілі ў праваслаўны клір. Адзін зь іх, сьв. памяці Уладзімір Мароз, быў дыяканам, другі, Уладзімір Зайка (цяпер жыве ў Аўстраліі) — сьвятар. Побач царквы збудавалі клюб для праваслаўнае моладзі. Гэта рабілася з тым, каб свае трымаліся разам і ня страціліся, не пагубляліся ў чужым (польскім) асяродзьдзі.

акружэньні. Бажэр'янаў заклаў у «Тэнгеру» друкарню, у якой выдаваў па-польску свой часопіс «Promyk Prawoslawny» («Праваслаўны Прамень»), царкоўную літаратуру, дапаможнікі ды г. д. У 1944 г. у горадзе Nairobi (Найробі) ў Кеніі ён выдаў вялікі, на 188 бачынаў «Праваслаўны малітоўнік». Напісаны ён пераважна на царкоўна-славянскай мове польскай лацініцай з польскамоўнымі ўстаўкамі. Зьмест малітоўніка, апрача уласна малітваў, склалі сьвятая літургія, вячэрня, трапары, акафісты, месяцаслоў ды інш. Гэтаю кнігаю аж да сёньня карыстаюцца праваслаўныя вернікі, раскіданыя па ўсім Божым сьвеце, і варта добрым словам памянуць а. Міхаіла за ўчыненую справу.

На вялікі жаль, некаторыя палякі — безь ніякіх рацыянальных прычынаў — былі варожа настаўленыя да беларусаў, а яшчэ горш — да ўкраінцаў. Відаць, так праяўлялася пачуцьцё крыўды палякаў за высяленьні, зьдзейсьненыя бальшавікамі, каторыя ў іхняй сьвядомасьці асацыяваліся з расейцамі, а, значыць, з праваслаўнымі. А на тое, што разам зь імі былі выселеныя Саветамі ды трапілі на катаргу й праваслаўныя беларусы, — «крэсавякі»-асаднікі хутка забыліся. Забыліся, што беларусаў часта вывозілі праз тое, што яны некалі служылі ў «польскіх» маёнтках, абраблялі «панскаю» зямлю ды пільнавалі «панскія» лясы. Беларусы ў разуменьні «крэсавякаў» былі «рускімі» або «схізматыкамі», ад якіх палякі вякамі цярпелі... Нянавісьць да праваслаўных у «Тэнгеру» была настолькі вялікая, што невядомыя хуліганы ўчынілі зьнеслаўленьне царквы.

На гэта адзначым, што з боку праваслаўных да палякаў не было варожасьці, наадварот, беларусы ды ўкраінцы цалкам лаяльна ставіліся да іх, шчыра служылі ў польскай арміі, ваявалі, пралівалі кроў і гінулі за Польшчу. Ці-ж гэтыя людзі не заслужылі на лепшае стаўленьне да сябе?

Айцец Міхаіл не заставаўся абыякавы да гэтай варожасьці. Ён вырашыў бараніць сваіх вернікаў друкаваным словам. У часопісе «Праваслаўны Прамень» Бажэр'янаў, напрыклад, перадрукаваў артыкул князя В. Баратынскага «Папежыца Яніна» ў скарочаным перакладзе на польскую мову, які быў упершыню апублікаваны ў Парыжы ў 1939 г. Артыкул гэты прысьвечаны жанчыне на ймя Яніны (Joanna), якая ў сярэдзіне IX ст. нібыта была Папам Рымскім (навукоўцы да сёньня не прыйшлі да адзінай думкі адносна праўдзівасьці гэтае гісторыі). Публікацыя выклікала хвалю пратэстаў сярод палякаў-каталікоў, прайшлі сходы, пасыпаліся зьнявагі ў бок а. Міхаіла.

У сярэдзіне 40-х гг. айцец Міхаіл пачаў хварэць (зрабілася кепска з ныркамі) і трапіў у шпіталь у Dar es Salaam (Дар-эс-Саляме), Танзанія, а 20 жніўня 1946 г. памёр, не пражыўшы й 35 гадоў. Былыя ягоныя прыхаджаны з «Тэнгеру» ды мясцовыя грэкі паставілі на ягонай магіле ў Дар-эс-Саляме вельмі прыгожы помнік з надпісам па-ангельску: «Сьвятар Міхаіл Баяроўскі — сьвятар Польскай праваслаўнай царквы ў «Тэнгеру». Радзіўся 15.11.1911. Памёр 20.8.1946. Польскія праваслаўныя перасяленцы ды грэцкае таварыства ўзьвялі гэты надмагільны помнік у памяць іхняга ўлюбёнага сьвятара».

У 1948 г. пачалася ліквідацыя лягероў, у тым ліку і ў Афрыцы. Людзі пачалі зьяжджаць у іншыя краіны на сталае жыхарства. З зразумелых прычынаў былыя «спэцперасяленцы» нават і ня думалі пра вяртаньне на Бацькаўшчыну. Найбольш цывільных па-



MODLITEWNIK PRAWOSLAWNY.

Wydawnictwo

ехала з Афрыкі ў Брытанію, каб злучыцца з сваімі бацькамі, мужамі, сынамі, каторыя служылі ў польскай арміі на Захадзе, а таксама прыбывалі ў Брытанію зь Італіі, Нямеччыны, Эгіпту на дэмабілізацыю. Тут пачыналася «нармальнае» эміграцыйнае жыцьцё. Шмат хто зь беларусаў пакідаў Брытанію ды перабіраўся ў ЗША, Канаду, Аўстралію, Паўднёвую Афрыку.

Гэтак закончыўся яшчэ адзін этап той доўгай і трагічнай дарогі, якая пачалася для мяне 10 лютага 1940 г. моцным ударам у дзьверы прыкладам вінтоўкі ды крыкам



*Праваслаўныя дзяўчаты каля сваёй царквы ў лягеры «Тэнгеру», Танзанія. 1946 г. Айцец Міхаіл (у цэнтры) сярод сваіх прыхаджанаў. Танзанія, 1946 г.*

«энкавэдэшнікаў»: «Открывай двери!» А потым: «Собирайся с вещами!»...

Дзякуючы айцу Міхаілу Бажэр'янаву шмат беларусаў у лягерох Афрыкі ня выракліся свае нацыянальнасьці. Там жа, дзе не было людзей, падобных да а. Міхаіла, некаторыя беларусы паддаліся апалячваньню. Мне невядома, што сталася зь сям'ёй, з роднымі Міхаіла Бажэр'янава. Казалі, што ягоная жонка-«матушка», якая таксама была ў глыбіні СССР, праз драматычныя абставіны не змагла выехаць разам зь ім у Іран. Прынамсі, у згаданым вышэй «Малітоўніку» ёсьць просьба маліцца за збаўленьне душ Божых: Аляксандра, Аляксандры, Людмілы, Кацярыны ды а. Міхаіла. (Дзеля поўнасьці, трэба тут успомніць, што ў 1942 г., пасьля выезду із «савецкага рая», айцец Міхаіл выдаваў у Іране часопіс на польскай мове для праваслаўных вернікаў пад назовам «Ziarenko Prawoslawnie» («Праваслаўнае зернятка»).

**PS.** Сьв. памяці а. Міхаіл пахаваны ў горадзе Дар-эс-Саляме, у гарачай Афрыцы, сярод чужых людзей, у чужой зямлі, пад чужым небам. Асабіста я гадамі думаў, што ягоная родня, блізкія, знаёмыя ў Вільні ці то ў іншых мясцовасьцях і краінах, можа стацца, нават нічога й ня ведаюць пра ягоны лёс. Дзеля гэтага я напісаў у 80-ых гг. ліст да праваслаўнай царквы ў Вільні, коратка паведаміўшы аб жыцьці а. Міхаіла ў Афрыцы ды дзе ягоная магіла. Даў свой адрас. Аднак ліст мой быў, мабыць, «голасам клікаючага ў пустэльні». На яго ніхто не адгукнуўся... Дзеля таго, што сьв. памяці айцец Міхаіл Бажэр'янаў быў родам зь Вільні, думаю, што мой артыкул будзе цікавы для віленчукоў. Можа стацца, у Вільні жывуць яшчэ сваякі ды родныя а. Міхаіла, і яны ня ведаюць, дзе ягоная магіла. Калі пасьля надрукаваньня майго артыкулу хто-небудзь адгукнецца ці зьвернецца да Вас, дык Вы маеце поўнае права даць гэтым асобам мой адрас.

**М. Швэдзюк**
*Англія*

## Мне здаецца

што людзі, якія сёньня падтрымоўваюць Лукашэнку, напэўна, думаюць, што ён адновіць Савецкі Саюз, што стане лепш жыць і г. д. Гэтыя людзі забыліся, што СССР ня мог сябе пракарміць. Цэлы час купляў пшаніцу ў ЗША за золата. А золата танна здабывалі палітвязьні, веруючыя, спэцпераселяныя ды інш. А калі ходзіць аб г. зв. «славянскім саюзе», дык гэта ўжо супэрнаіўнасьць. Чэхі ды палякі ўжо ў НАТА. Толькі адныя рускія ды лукашэнкаўская Беларусь будзе ў тым «славянскім саюзе». Украінцы не сьпяшаюцца жыць у «камунарцы».

**М. Швэдзюк**
*Англія*

## Хочаш мітынгаваць — плаці!

Праглядаючы асіповіцкую раёнку «Запаветы Леніна» (чытаць там усё роўна нічога няма, акрамя нэкралёгаў, а ад рэпартажаў пра «бітвы за ўраджай» ды ад рапартаў аб нашых дасягненьнях мяне ванітуе яшчэ з камуністычных часоў), натрапіў на інфармацыю аб тым, што «Раённы выканаўчы камітэт рашэньнем N 18 - 15 ад 20 верасьня 1999 г. прыняў адпаведнае рашэнне». Сутнасьць гэтага рашэньня гэткая ж бязглуздая, што й пададзеная вышэй фраза з раёнкі: як можна «рашэньнем» прыняць «рашэньне»!? І справа нават ня ў тым, што для мітынгаў і пікетаваньняў у нас, за прыкладам сталіцы, адводзяцца самыя глухія й бязлюдныя мясьціны, дзе, колькі не пратэстуй — ніхто цябе не пачуе і ня ўбачыць. (У Асіповічах — гэта стадыён «Алімпіец» на ўскрайку гораду, побач з могілкамі. Канечне, грэх трывожыць вечны спакой нябошчыкаў, але яны ўсё адно нікому скардзіцца ня будуць. Па гэткім самым шляху варта пайсьці і ўсім сельскім выканкамам: у кожным жа сельсавецкі ёсьць аддаленыя глухія могілкі! Туды й накіроўваць «мітынгоўшчыкаў»! У Драганаве, напрыклад, гэта мейсца вечнага супакою растраляных у гады вайны габрэяў, у самым лесе). Паводле вышэй згаданага рашэньня «установлены наступны парадак аплатаў расходаў, зьвязаных з арэндай стадыёна «Алімпіец» (ці іншых месц у раёне), медыцынскім абслугоўваннем, уборкай тэрыторыі пасля правядзення масавых мерапрыемстваў, аховай грамадскага парадку: арганізатары масавых мерапрыемстваў да заявы ў райвыканкам аб правядзенні сходу, мітынгу ці пікетавання дадаюць дакумент аб папярэдняй аплаце названых расходаў фінансаваму аддзелу райвыканкама (у выпадку зрыва мерапрыемства па віне арганізатара грошы не вяртаюцца)».

Значыць, калі ўлады, як заўсёды, зробяць усё, каб сарваць акцыю, назад грошы забраць — дулю! Хіба не залатая жыла для папаўненьня спустошанай дзяржаўнай казны?! Глядзіш, якую капейчыну «адваляць» і на ўпарадкаваньне закінутых могілкаў...

Цяперашнія беларускія ўлады імкнуцца ўсялякімі спосабамі задушыць нават самыя слабыя спробы пратэсту, тымчасам нічога ня робячы дзеля паляпшэньня жыцьця простага чалавека. Замест паціху выпускаць пару з разагрэтага сасуду, наглуха задрайваюць усе дзюрачкі. Але аднойчы ціск можа перасягнуць крытычную рыску, і тады... «Не дай Бог увидеть бунт, бессмысленный и жестокий» (А. Пушкін).

**М. Пронін**
*Асіповіцкая грамадзка-палітычная газэта «Панарама» (6/1999)*

## У гэты цяжкі час

калі ўлады вядуць безсэнсоўныя змаганьні дзеля зьнішчэньня ўсяго беларускага, мы лічым, што газэта беларусаў Літвы «Рунь» зробіць таксама свой уклад у адбудову новай і дэмакратычнай Беларусі. Высылаю вам верш нашага сябра з Клічаўшчыны, адрасаваны «дэлегатам» г. зв. «Усебеларускага сходу».

***Вайніла Большы***

***Дэлегатам «Усебеларускага сходу»***

*Прадаўшы гонар і сумленьне,*
*Прайшоўшы тэсты на давер,*
*Вы з прэзыдэнцкім атачэньнем*
*Навекі здраднікі цяпер.*

*Вас везьлі ў Менск, як тых скажоных,*
*Зялёны сьвет паўсюль вам быў,*
*Усьлед вам несьліся праклёны,*
*АМАП ад люду вас прыкрыў.*

*Вас падбіралі ўсіх на згоду,*
*Каб «бацьку» любаму ўгадзіць,*
*Два дні душылі вы свабоду,*
*Каб дэмакратыю ўтапіць.*

*О, як вы пелі салаўямі,*
*Каб нас хутчэй у галечу здаць.*
*Радзіліся вы халуямі,*
*І халуямі вам сканаць!*

*Раўлі вы ровам: «Адабраем!»*
*Мараль, сумленьне — аніштo.*
*«Табе, наш родны, давяраем!*
*Заві ў падмогу, калі што!»*

*Вас забясьпечылі пайкамі,*
*Для вас бясплатны быў гатэль,*
*Вы моцна пляскалі рукамі,*
*Уладзе даючы давер.*

*І, каб адзначыць за адданасьць*
*І здраду вашу, «бацька» ўсім*
*Замест сярэбраніка танны*
*Гадзіньнік даў з кляймом сваім.*

*Ды бачыш: ён ужо зламаўся!*
*Ці ход яго зусім ня той?*
*Ты ж навек Каінам застаўся,*
*Народ і Край прадаўшы свой.*

*Табе ўжо сёньня часта сьніцца,*
*Як па палетках, па лясах*
*Пагоня грозная імчыцца,*
*Загнаўшы здраднікаў у жах.*

*Вы ганьбай сталі для нашчадкаў*
*Сваёю здрадай ў цяжкі час.*
*Надыйдзе час — і па-парадку*
*Спытаем з кожнага із вас!*

**А. Белазерцаў**
*Клічаў*

## Навіны з Адэляйды

(Паўднёвая Аўстралія) даслаў нам сп. **Уладзімір Акавіты**. У прыватнасьці ён расказаў, як сябры Беларускага Аб'яднаньня сьвяткавалі чарговыя 79-ыя ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну: «Настаяцель БАПЦ, пратаярэй Пятро Касацкі, пасьля літургіі адправіў паніхіду па загінуўшых героях, а таксама па тых, каторых было забітыя падчас II Сусьветнай вайны зь Беларускай Краёвай Абароны. Сказаў вельмі чулую пропаведзь. Па заканчэньні ўсе пайшлі ў прыцаркоўную залю на супольны абед, каторы прыгатавалі нашыя жанчыны. Старшыня Аб'яднаньня Віктар Кавалеўскі адкрыў урачыстую частку, папрасіў а. Пятра Касацкага блаславіць ежу на стале. Віктар Кавалеўскі прывітаў прысутных, зачытаў прывітаньні ад іншых арганізацыяў, прачытаў свой рэфэрат. Затым пачалася пачостка, было сьпевана многа бел. песьняў, сярод якіх першым быў засьпяваны гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», а другім марш «Сьпі пад курганам герой». Сп. У. Акавіты разам зь лістом даслаў нам здымак новай, з утульным панадворкам царквы ў Адэляйдзе.



## «Belarusian Cuisine»

(«Беларуская кухня») — гэткая прыгожа аздобленая кніжачка рэцэптаў беларускіх страваў выйшла ў ангельскай мове ў 1994 г. у выдавецтве «Ураджай» у Менску. Замест таго, каб падаць назовы беларускіх страваў у ангельскай транскрыпцыі па-беларуску, аўтар кнігі чамусьці падаў іх па-расейску: galki (halki), zakusochny (dla zakuski), solyanka (salanka), kutya (kuccia), kolosok (kalasok) і г. д. Хочыцца, каб беларускія стравы мелі свой арыгінальны назоў.

**Кастусь Варабей**
*ЗША*

## Шаноўная Гэлена Глагоўская!

Сапраўды, нашае ТБМ Віленскага краю імкнецца ўшаноўваць імёны слынных беларускіх дзеячоў у назовах вуліцаў, у шыльдах на будынках і г. д. Мы робім гэта, хаця й зь цяжкасьцю, бо знаходзяцца чыноўнікі, каторыя гэтаму перашкаджаюць. Што датычыць маёй нататкі пра ксяндзоў Адама Станкевіча ды Яна Семашкевіча (Янку Быліну) у «Голасе Радзімы», дык там, зь віны рэдакцыі была дапушчаная памылка. У маім допісе не было сказана, што Я. Быліна загінуў у сталінскім ГУЛАГу. А за зьвесткі пра жыцьцёвы лёс паэта, нашага земляка, у «Руні» N 28 вялікі Вам дзякуй! Як кажуць, бязь ліха дабра не бывае. За душу сьв. памяці Яна Семашкевіча мы памолімся, а, дасьць Бог, зладзім і пілігрымку да мейсца, дзе ён пахаваны.

**Юры Гіль**
*Вільня*

## Зьмястоўны артыкул

«Вучоба К. С. Дуж-Душэўскага ў Пецярбургскім Горным інстытуце ў 1912 — 1919 гадох» даслаў нам **Пятро Амбрасовіч** зь Пецярбургу. Ва ўступе да сваёй паўтарагадавой працы аўтар артыкулу піша: «Хачу пазнаёміць вас зь некаторымі старонкамі жыцьця слаўнага беларускага палітычнага й грамадзкага дзеяча Клаўдзія Сьцяпанавіча Дуж-Душэўскага, сабраныя мною паводле матар'ялаў Пецярбургскага дзяржаўнага гістарычнага архіву й Цэнтральнага дзяржаўнага архіву Санкт-Пецярбургу (былы архіў Кастрычніцкай рэвалюцыі), а таксама некаторых асабістых уражаньняў ад знаёмства зь ягоным жыцьцём і творчасьцю...» У наступным нумары «Руні» мы пачнем друкаваць гэтае цікавае сваімі дэталямі ды падрабязнасьцямі гістарычнае даследаваньне сп. П. Амбрасовіча. Выкарыстаем мы яго, безумоўна, і пры падрыхтоўцы да друку публікаткі «Клаўдзі Дуж-Душэўскі» ў нашай сэрыі «Партрэты віленчукоў».

## Зазірнуў у паштовую скрыню

а там вырасла нашая віленская «Рунь». Пасьля перадкаляднай камэрцыйнай паганшчыны — гэта надзвычайнае здарэньне! Дзякую ўсім супрацоўнікам «Руні», жадаю добрага здароўя, дый каб у Летуве нашая беларуская рунь некалі запраўды ўскаласілася й налілася поўнымі зярнятамі.

Прашу ўсё-ж не насьледаваць нашага «старэйшага брата» ды ня ўводзіць ўсьлед за ім нашай мове шкоднае. Маю тут на ўвазе т. зв. «літары-сіроты», пазбаўленыя адпаведнага злучка пры словах. напрыклад, на 8-ай бачыне «Руні» N 28 (артыкул «Беларуская апазыцыя...»). На гэтай бачыне сустрэнеце: «усё ж», «я б», «Расейскія ж», «Гэта ж», «Хто б» ды інш. Пакуль што ў нашыя эміграцыйныя часапісы й газэты такія «літары-сіроты» не паўлазілі. Дзеля гэтага, бадай, варта даць карэктарам і супрацоўнікам кароткую інструкцыю, як яно павінна быць, як было й цяпер ёсьць у нескалечанай «наркомаўкай» нашай мілагучнай, сьпеўнай, прыгожай і дарагой нам — раскіданым па цэлым сьвеце выгнаньнікам — мове.

**Алесь Акула**
*Канада*

***PS.*** *Будзем, пачынаючы з 30 нумара газэты, прытрымлівацца гэтага слушнага правіла —* ***рэд.***

## Аб Віленшчыне й польскіх асадніках

У польскай газэце «Dziennik Polski» (Англія, 20.07.99) было зьмешчанае інтэрвію з сп. Янам Сянкевічам, паслом да літоўскага Сойму, пад загалоўкам «Забіраюць нам зямлю й школы». Я. Сянкевіч сьцьвярджае, што літоўцы адкрываюць свае школы ў мяйсцовасьцях, дзе жывуць пераважна палякі, і што літоўская дзяржава фінансуе, будуе ды ўпасажвае польскія школы слабей, чым літоўскія. Ён выступае таксама за тое, каб самаўрады Віленскага й Салечніцкага раёнаў (дзе, паводле ягоных словаў, бальшыня палякаў) маглі распараджацца сваёй зямлёй і праз гэта абмяжаваць наплыў на землі Віленшчыны... «літоўскіх асаднікаў».

У мяне ўзьнікае пытаньне: «Ці маюць палякі маральнае права наракаць на літоўцаў, што тыя адкрываюць свае школы сярод польскага насельніцтва і што да іх мяйсцовасьцяў прыяжджаюць «літоўскія асаднікі»?» Нам, выхадцам з Зах. Беларусі, ведамыя й іншыя «асаднікі» — былыя легіянэры Пілсудзкага, якія даставалі бясплатныя землі сярод беларускага насельніцтва. А ці палякі не адкрывалі свае школы сярод беларусаў на бел. этнічных землях? Быць можа, варта тут прыгадаць падвіленскім палякам польскую пагаворку: «Не рабі іншым таго, што табе ня мілае»...

У той самай газэце ёсьць артыкул пра II Сусьветны зьезд сям'ёй вайсковых асаднікаў (*польскіх —* ***М. Ш.***), які адбыўся 4-5 верасьня ў Варшаве. З Польшчы й з замежжа прыехала 240 асобаў. Як можна было й спадзявацца, прынялі яны рэзалюцыю, «каб польскі ўрад зьвярнуўся да Беларусі, Літвы і Украіны аб звароце страчаных маёнткаў». У газэце не спамінаецца, аб якіх маёнтках ідзе тут гаворка. Можа пра землі, каторыя яны дасталі бясплатна? Зьезд гэты аздабляла вакальна-паэтычная група «Гербера» зь Берасьця пад кіраўніцтвам пані Марыі Сулімы. Група сьпявала польскія рамантычна-настальгічныя песьні, дэклямавала патрыя-

*Працяг на старонцы 8*

*Працяг са старонкі 7*

тычныя вершы. Трэба дзівіцца, што пані Марыя Суліма, напэўна, грамадзянка Беларусі, уважала за патрэбу быць прысутнай з сваёй групай на Зьезьдзе сям'ёй асаднікаў, былых нашых калянізатараў. А ў доказ таго, што яны такімі былі, прыводжу тут словы з кніжкі «Іхняе жыцьцё й сны», напісанай сынам асадніка: «...мелі ганаровае заданьне паланізаваць гэтыя мяйсцовасьці... Весьці працу замацаваньня лацінскае культуры, тварыць новую рэальнасьць, польскую, народную, хрысьціянскую... Былі пакліканыя цераз Гісторыю дзеля стварэньня фарпостаў лацінскае культуры.... Былі апосталамі новай палітычнай рэальнасьці...» ды інш.

Мяркую, што камэнтары тут непатрэбныя.

**М. Швэдзюк**
*Англія*

## 478-ым угодкам беларускага друку

прысьвечаны артыкул спн. **Р. Жук-Грышкевіч** «478-я ўгодкі друку на беларускай зямлі» («Камунікат», 1/2000). У артыкуле, прывёўшы словы нашага вядомага скарыназнаўцы В. Тумаша, што «Пісаць гісторыю беларускага народу ды без гісторыі нацыянальна-духовага цэнтру краю, сталічнае Вільні, гэта такая-ж недарэчнасьць, як калі-б нехта пробаваў пісаць гісторыю старажытнае Грэцыі без гісторыі Афінаў», — спн. Р. Жук-Грышкевіч працягвае: «Такою-ж недарэчнасьцю ёсьць і словы Сямёна Шарэцкага: «Мы, беларусы, удзячныя жыхарам Вільні ўсіх нацыянальнасьцяў, якія на працягу доўгіх стагодзьдзяў давалі магчымасьць прыяжджаць сюды беларусам і ствараць тут свае друкарні (я маю на ўвазе Скарыну), пачынаць тут і нашае пісьменства, і адукацыю». А пісьменства ў Беларусі пачалося, спадару Шарэцкі, не ў 16 ст. Гэта Жамойць-Летува ў 16 ст. за часоў Скарыны свайго пісьменства яшчэ ня мела. Беларусы мелі свае пісьменства ўжо ў X-XI ст. ст...»

## Гаворыць Вільня!

Мяркую, што ўсе памятаюць тыя часы, калі, шалёна гойсаючы ў дыяпазоне кароткіх хваляў, мы спрабавалі знайсьці голас, які данёс-бы да нас тое, пра што мы не маглі пачуць па нашым айчынным радыё. Ад таго часу мінула 10 гадоў. Былыя прыбалтыцкія рэспублікі «несакрушальнага» СССР здабылі самастойнасьць і, няхай сабе зь вялікімі перашкодамі й цяжкасьцямі, крочаць па шляху пабудовы дэмакратычных грамадзтваў. І вось ужо зь незалежнай Літвы распачалося вяшчаньне на ўсё яшчэ залежную Беларусь. Радыёстанцыя «Балтыцкія хвалі» зь Вільні нарабіла ў «чэсных» структурах Рэспублікі Беларусь столькі шуму й гвалту, што гэта можна параўнаць толькі з радыёвойнамі СССР і ЗША ў часе халоднай вайны. У вэрхале, паднятым у лукашэнкаўскім акружэньні, ёсьць адзін маленькі, але даволі цікавы момант.

Сёньня Рэспубліка Беларусь мае іншамоўнае радыёвяшчаньне па-ангельску, па-нямецку ды па-расейску, якое вядзецца штодзённа на ўвесь Паўночна-Антлянтычны Саюз на сярэдніх ды кароткіх хвалях. Чамусьці не чуваць падобных пратэстаў ад немцаў ці ангельцаў. Дык чаму-ж «Балтыцкія хвалі» на беларускай мове выклікалі ў кіруючых колах РБ столькі гвалту, чутак, плётак, нянавісьці? Кожная-ж вольная краіна сьвету, у тым ліку й Літва, мае права мець любое іншамоўнае радыёвяшчаньне, у тым ліку й па-беларуску. Ніхто ня мае права забараніць Літве інфармаваць сваіх слухачоў у Беларусі аб падзеях у краіне ды сьвеце па-беларуску. (Як, дарэчы, робіць гэта штодня дзяржаўнае літоўскае радыё па-ангельску). На жаль, «таварышы» зь Менску ніяк ня могуць растлумачыць нам, чаму па-ангельску гэта рабіць можна, а па-беларуску забараняецца.

Радыё «Балтыцкія хвалі» — свабодная, публічная станцыя, якая ня мае ніякіх плянаў у справе абмяжаваньня й падзелу інфармацыйных крыніцаў. Лічу, што стварэньне такой радыёстанцыі ў Літве сьведчыць пра пэўны ўзровень дэмакратызацыі нашае краіны, што «Балтыцкія хвалі» плённа паўплываюць на стаўленьне дэмакратыі ў суседняй Беларусі, узмоцняць нашыя сяброўскія стасункі.

**Андрусь Старавойтаў**
*Вільня*

## «Сындром тысячы»

Кажуць, што падчас вядзеньня войнаў існуе гэтак званы «сындром тысячы» — тысячы забітых. І, сапраўды, напрацягу апошніх дзесяці дзён па расейскай тэлевізіі загаварылі пра сапраўдны лік ахвяраў у новай, разьвязанай расейскай ваеншчынай, чачэнскай вайне. Насуперак дадзеным расейскага генштабу, а гэта на сёньня 300-400 забітых, называюць лічбу ў 10 разоў большую: 3-4 тыс. Гэтую, схаваную ад шырокай грамадзкасьці, лічбу выводзяць рознымі ўскоснымі спосабамі. Напрыклад, падлічваюць колькасьць дамавінаў, каторыя з Растова (цэнтралізавана) адпраўляюць ва ўсе канцы «необъятной матушки России». (Іх цяпер штодня адпраўляюць 20-30 штук — лічба жахлівая!) А калі ўзгадаць, што з «варожага боку» гэтаксама гінуць (у яшчэ большай колькасьці) расейскія грамадзяне, хай сабе й «каўказкай нацыянальнасьці», дык... страшна падумаць.

Падобна да таго, што на Расею, пасьля кароткачасовай ваенна-патрыятычнай эйфарыі й бяздумнага захапленьня новым «зялезным правадыром» Пуціным, насоўваюцца разгубленасьць і панылаcьць, спраўкаваныя «сындромам тысячы». У Чачні-ж тымчасам распачынаецца зацяжная партызанка. Выглядае так, што «победаносная» вайна, прабачце, «лякальная контратэрарыстычная апэрацыя» (у якой, дарэчы, задзейнічана да 200 тыс. расейскіх вайскоўцаў, што суразьмерна з колькасьцю насельніцтва ўсёй Чачні) з ганьбай правальваецца.

І вось ужо грамадзяне Беларусі, каторыя вось-вось павінныя ў чарговы раз навекі злучыцца з «братнім народам», пачынаюць атрымоўваць павесткі з ваенкаматаў аб прызыве іх на «ганаровую» службу ў Рэспубліку Ічкерыя... Можа, хоць гэтыя павесткі астудзяць галовы тых нашых суайчыньнікаў, каторыя ўсё яшчэ бачаць у аб'яднаньні з Расеяй панацэю ды выратаваньне ад усіх беларускіх хваробаў? Ці-ж нам дзеля «працьвераджэньня» таксама неабходна прайсьці праз «сындром тысячы»? Калі мы, нарэшце, зразумеем, што ня толькі Расея, а й ніякая іншая краіна не збудуе нам цывілізаванага, гуманнага грамадзтва, калі мы самі пра сябе не паклапоцімся?

**Віталі Яўменаў**
*Віцебск*




*Здымак Дзяніса Раманюка*

## Жыць у Літве стала цяжэй

Летась я яшчэ неяк зводзіў канцы з канцамі. А сёлета жыць у Літве стала цяжэй. Працую я адзін у сям'і з 4-ох чалавек, вадзіцелем. Зарплату мне «зрэзалі» з 1200 Lt ($ 300) да 900 Lt ($ 225). Тымчасам кошты за камунальныя паслугі ў Літве значна павялічыліся. За нашую трохпакаёвую кватэру штомесяц трэба плаціць у зімовы сэзон больш за 400 Lt ды яшчэ за тэлефон. Застаецца нейкіх 400 Lt, каторых стае толькі на ежу. Жонка працу знайсьці ня можа: жанчыны, якім за 40, самая незабясьпечаная працай катэгорыя людзей у Літве. Толькі не падумайце, што так, як я, у нас жывуць адзінкавыя сем'і. Так жыве большасьць, а яшчэ ёсьць і такія, якія зусім ня маюць працы й жывуць на мяжы выміраньня. Здарылася гэта, на мой погляд, таму, што нашыя кіраўнікі за 10 гадоў незалежнасьці разваліці ўсю вытворчасьць і сельскую гаспадарку, якія йснавалі пры савецкай уладзе, а новай вытворчасьці не стварылі. А раз няма ніякай вытворчасьці, калі нічога не вырабляецца й не прадаецца, дык тады няма працоўных месцаў для большасьці насельніцтва. Жывуць добра толькі самі чыноўнікі, некаторыя бюджэтнікі ды працаўнікі фірмаў, каторыя займаюцца купляй-продажай. (Напрыклад, купляюць нешта ў Расеі ды перапрадаюць на Захад. Ці прывозяць нешта з Захаду й прадаюць у нас (або ў той самай Расеі) за большыя цэны). Але пакольке ў нашага насельніцтва няма купляльнай здольнасьці, дык і крамы (асабліва дробныя) апошнім часам масава зачыняюцца. Каб папоўніць бюджэт, дзяржава павялічвае налогі, і працаваць легальна становіцца немагчыма. Дажыліся да таго, што нават паліцыянты пачалі баставаць! А яшчэ прыкра, што за часы незалежнасьці нашыя бяздарныя кіраўнікі нахапалі на Захадзе пазыкаў ды, каб расплаціцца за іх, парапрадалі фактычна ўсю Літву, і ў нас цяпер, здаецца, нічога ўжо свайго не засталося: ні тэлекамунікацыяў, ні чыгункі, ні вытворчасьці бэнзіну. Моладзь і лепшыя людзі зьбягаюць ад беспрацоўя на Захад. Кажуць, што там такі наплыў літоўцаў, што, напрыклад, Аўстралія ды Англія забаранілі ім уезд, хоць паводле закону ніякіх візаў грамадзянам Літвы ў гэтыя краіны непатрэбныя. Гэтыя свае сумныя развагі я мог бы працягваць бясконца... Адно толькі супакойвае, што калі бываю на пагасьцінах у сваіх сваякоў зь Беларусі, дык бачу, што там жывуць яшчэ горш: і матар'яльна горш, і запалоханыя ўсе нейкія.

**Ігар Мяркуйчык**
*Вільня*

## Адзін з усіх

У часе апошняй выбарчай кампаніі ў Расейскую Думу адзін толькі сп. Яўлінскі, ачольнік партыі «Яблыка», захаваў цьвярозы розум ды выступіў супраць вайны ў Чачні. Ён сказаў, што ваенныя дзеяньні трэба перапыніць ды пачаць палітычныя перамовы з законна абраным прэзыдэнтам Чачні Масхадавым. Астатнія, нават хвалёны «дэмакрат» Чубайс, выступілі за працяг ваеннай кампаніі, каторая тады здавалася пераможнай. Я не зьяўляюся прыхільнікам Масхадава й ягоных прысьпешнікаў: тут варта ўспомніць пра адных толькі заложнікаў, якія яшчэ дагэтуль пакутаюць у чачэнскіх падвалах. — гэта недаравальна. Але ваяваць з чачэнцамі (дый з кожным народам) ёсьць справа безнадзейная. Трэба было, на маю думку, спыніцца на Церыку, прыроднай мяжы, абкружыць Чачню непранікальным кардонам ды пакінуць чачэнцаў з іхнімі праблемамі сам-насам. Яны-б тады й самі разабраліся з бандытамі.

**Уладзімір Рынкевіч**
*Смаленск*

### Умовы падпіскі

**Чытачы далёкага замежжа** могуць падпісацца, даслаўшы на рэдакцыю імянны чэк сакратару газэты Паўлу Саўчанку (*Pavel Savcenko*). Кошт падпіскі на год – **$20**. Паведамляем гэтаксама наш валютны рахунак: ***Nr. 91756 AB banko HERMIS Vilniaus filialas, kodas 260101730***

**Жыхары Літвы** могуць падпісацца ў сакратара газэты Паўла Саўчанкі (*т: 61 62 24*) або ў кожным паштовым аддзяленьні Літвы. Падпісны індэкс газэты – **0187**. Кошт падпіскі на год –**12 Lt.**

**Падпішчыкам у Беларусі** паведамляем адрас у Менску: *Марыя Мурашка, п/с 176, 220123 Менск.* Кошт падпіскі на год – сума ў беларускіх рублях эквівалентная **$ 3**.

**Падпішчыкам у Расеі** паведамляем адрас у Санкт-Пецярбурзе: *191028 Санкт-Петербург, ул. Сикейроса 6-1-364, Ковалюк Евгении Трафимовне.* Кошт падпіскі на год – сума ў расейскіх рублях эквівалентная **$ 5**.

**Падпішчыкам у Польшчы** паведамляем адрас у Беластоку: *Wieslaw Choruzy, Porosly 18 «а», 16-006 Barszczewo.* Кошт падпіскі на год – сума ў злотых эквівалентная **$8**.

### Ахвяраваньні на газэту:

| | |
|---|---|
| **К. Варабей** з Амэрыкі | $ 20 |
| **М. Пашкевіч** з Канады | $ 20 |
| **М. Пецюкевіч** зь Італіі | $ 20 |
| **М. Клакоцкі** з Амэрыкі | $ 50 |
| **Л. Парэцкі** з Аўстраліі | 20 AUD |
| **В. Ліпскі** з Аўстраліі | 50 AUD |
| **М. Лужынскі** з Аўстраліі | 50 AUD |
| **В. Мілянцэвіч** з Аўстраліі | 150 AUD |
| **У. Акавіты** з Аўстраліі | 50 AUD |
| **А. Садоўскі** з Аўстраліі | 50 AUD |
| **В. Шостак** зь Літвы | 40 Lt |
| **М. Ігнатовіч** з Амэрыкі | $ 20 |
| **К. Акула** з Канады | $30 |
| **Я. Каханоўская** з Амэрыкі | $30 |
| **М. Швэдзюк** з Англіі | $20 |
| **М. Руневіч** зь Літвы | $ 20 |
| **Б. Клінцэвіч** з Польшчы | 12 zl |
| **М. Радзімскі** з Польшчы | 40 zl |
| **І. Вараўка** з Польшчы | 35 zl |
| **Е. Туронак** з Польшчы | 40 zl |
| **Я. Ярмалковіч** з Польшчы | 50 zl |
| **Я. Жамойцін** з Польшчы | 35zl |
| **М. Галоўка** з Амэрыкі | $ 50 |

Меркаваньні рэдакцыі не заўсёды супадаюць з пазыцыяй аўтараў


*Адрас для допісаў:*
***«Рунь»***
***2001 Vilnius, a/d 1021***
***Lithuania***

РУНЬ газэта беларусаў Літвы

заснавальнік
**Таварыства беларускай культуры ў Літве**
выдаўцы
**Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў «Дэмакратыя дзеля Беларусі»**
**Таварыства беларускай культуры ў Літве**
адрас рэдакцыі
*Žygimantų 12-3, 2001 Vilnius, Lithuania*
тэлефон: *(+ 370 2) 42 38 02, 61 62 24;*
факс: *(+ 370 2) 42 38 02.*
**Алег Мінкін** — рэдактар
**Павал Саўчанка** — сакратар
**Алег Аблажэй** — мастацкі аддзел
**Сяргей Вітушка** — аддзел гісторыі
друк АВ «Spauda»
наклад 1000
ISNN 1392-7671